# ВОЛЬНАЯ БЕЛАРУСЬ

Цэна асобнаго № 15 кап.

**Умовы падпіскі на 1917 год.**

| За 1 м. | За 2 м. | За 3 м. | За 4 м. | За 5 м | За 6 м. | За 7 м. | За 8 м. | За 9 м |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. 50 | 3 р. | 4 р | 5 р. | 6 р. | 7 р. | 8 р. | 9 р. | 10 р. |

Падпіска прымаяцца толькі с 1-го чысла кожнага месяца

Перамена адрэсу—50 коп. Пры зьмені адрэса конча прыкладаць стары адрэс.

Рукапісы павінны быць чытэльна напісаны і толькі з аднаго боку паперы. Кепска перапісаныя рукапісы ні чытацца, ні друкавацца ня будуць.

На ліставання, перасылку рукапісау і іншыя адказы-павінны прыкладацца маркі.

**Газэта палітычная, эканамічная і літэратурная.**

**Год выданьня І.**

**Адрэс рэдакцыі** і адміністрацыі: Мінск, Захарауск. 18

**Умовы друку абвестак:**

(На IV боку газэты) за 1 радок шпальту 40 к. за 2 рад. 80 к. за кожны раз.

Асобам, шукаючым працы — 1 руб. за 3 радкі за адзін раз.

**№ 9. 1917 г. Серэда Выходзіць двойчы на тыдзень. 26 ліпня 1917 г. № 9.**


## НАША ПАВІННАСЬЦЬ.

Калі загарэлася цяперашняя вайна, дык усе ваюючые народы змушаны былі адбываць «вайскавую павіннасьць», бо іначай ні водзін з гэтых народаў ня мог-бы мець надзеі ні толькі выйсьці з вайны пераможцам ворага, але і сам застацца жывым. У часі вайны ўсюды павінна быць вайскавая павіннасьць, як ў адбыванні службы ў войску, так і ў другіх справах ваеннага часу, патрэбных ваюючаму народу. І чым гэта павіннасьць будзе лепш умацаваня і звязана ў вадно цэлае, тым лягчэй ісьці да патрэбнай мэты і тым страшней ворагу; і наадварот: чым слабчэй арганізавана павіннасьць народу, тым лягчэй ворагу і тым цяжэй, горэй і страшней ніарганізаванай старонцы.

І гора тэй старонцы, што мае такіх сыноў, каторые, баючыся за сваю асобістую сьмерць, хаваюцца за плечы адважных, бо гэтым прыносюць сьмерць усяму свайму народу, ўсей бацькаўшчыні.

Гора такім сыном!..

Гора яшчэ і тым «сыном», каторые, ці-то праз дурны страх, ці-то за грашавы інтэрас, перабегаюць да ворага і прадаюць сваіх братоў, свой родны край.

Страшней і горш гэтага на сьвеці німа.

Але ні аб вайне справа.

Расійская рэвалюцыя адчыніла дзьверы ўсім, хто хоча увайсьці ў вялікі хорам праўды і братэрства.

Яна адчыніла гмах і сказала:

— Ідзіце роўна, згодна і проста. Вы прыдзяце і знайдзяце сваё шчасьце. Шчасьце ваша—шчасьце ўсіх, і шчасьце ўсіх—ваша шчасьце.

Мы-Беларусы.

Мы соткі гадоў былі «мужыкамі», «тутэйшымі»,—палякамі, калі каталікі, і маскалямі, калі праваслаўные.

Над намі зьневажаліся ўсе, хто толькі здолян быў да зьневагі. Зьневажаліся ўсе, каму было выгодна.

Але мы—Беларусы.

Ні на зьдзек мы радзіліся на сьвет. Мы гэткіе-ж людзі-славяны, як маскоўцы, палякі, украінцы, чэхі, сэрбы, баўгары і інш., і каліб ні трудные варункі самадзержаўнай палітыкі расійскай, а раней польскай, мы, Беларусы, стаялі-б нараўні з усімі нашымі брацьцямі і ня ведалі-б, што на сьвеці ёсьць «тутэйшые», «праваслаўные-маскалі» і «каталіцкіе-палякі». Мы ведалі-б перш за ўсё: былі, ёсьць і жыцьмуць Беларусы.

Але нівар̌та гаварыць аб гэтым. Хто ні дае веры, дык ніхай разгорне гісторыю, ці спытае вучоных.

Нам трэ' сказаць толькі, што цяпер расчыніліся дзьверы, разлёгся ўперадзі шырокі шлях, і мы павінны ісьці, ды ўзяць сваё шчасьце-долю.

Німа паноў, німа катаў! Німа нявольнікаў, пад'яромных...

Усе роўные. ўсе людзі і аднакова маюць права дыхаць, есьці хлеб і тварыць праўду.

Свабоду, роўнасьць і братэрства.

Гэта сьцяг усіх. Сьцяг справядлівасьці, сьцяг праўды і справядлівасьці.

Беларусы! Сходзьцеся пад гэты сьцяг здольнымі, зграбнымі, роўнымі радамі, ідзіця і не заваёвывайця, а бярэце сваё шчасьце-долю.

Гэта ваша павіннасьць, павіннасьць Беларусі. Гэта павіннасьць настаўнікаў, вучоных, партыйных працаўнікоў і усіх сыноў свайго краю.

І гора таму сыну, каторы, ці-то праз карысьць і выгоду, ці-то праз нейкі дурны страх, будзе разбіваць і блутаць рады і клікаць ў перакінчыкі да палякоў, ці да расійцаў!

Гора тым, што, ні разабраўшыся, пойдуць за імі, бо яны зноў хочуць прадаваць Беларусь нашу мілу на зьдзек і паняверку.

Ды скажуць нам суседзі і ні суседзі нашы:

— Да гэтага часу вы былі «тутэйшымі» і «мужыкамі» па варункам ад вас нізалежнымі, і мы спагадалі вам. Цяпер сьвядома вы выракаяцеся долі і пашаны свае і дабрахвотна робіцеся наймітамі, парабкамі,-цэглай і кахляй на будоўлю суседзкага гонару, пачэснасьці і моцы. Німа ў нас спачуцьця да вас!

— Калі-ж вы людзьмі станіце?!..

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Але барані Божа! Гэтага ніколі ня будзе.

Ня можа гэтага быць, як ня можа быць двух зацьменняў сонца зараз.

У нас лясы вялікія, зямля ураджайная. У нас рэкі, вазёры. У нас народ здольны і працавіты. Дык чаго нам трэба?

Мо' паклічым палякоў, ці расійцаў «уладаць і кіраваць» намі? Забіраць нашае-ж дабро, ды нашымі-ж рукамі?

Не, ня будзе гэтага! Гэта была-б насьмешка, накепліванне с самога сябе. Гэта ўсё роўна як самому паклікаць злодзея ў хату, паказаць яму скарбы свае, парасчыняць кублы, ды памагчы яму вынясьці дабро сваё. А злодзей гатовае толькі й забірае...

Вашу працу, ваша дабро, вашу кроў і мазалі чужынцы пярэгартуюць на чырвонцы...

Але, не! Дзесяцімільённы народ расплюшчыў вочы свае, выпрастаў спіну, ды стаў зьбягацца на вечавы звон.

— Прэч брудные рукі свае, рэнэгаты і прадаўцы роднага краю!

Не праспаў народ наш свае яспа зоркі і ужо выслаў сыноў сваіх на поле лепшай, сьветлай будучыні.

**І. Пілілаў.**



## Хто вінавайца вайны.

(Канчатак) *]

Англіі і Расіі ні пад густ было, што немяц завітаў на Турэшчыну, але немцы не маглі дабрахвотна пакінуць Турцыі. Турцыя—багаты рынак для нямецкіх прамыслоўцаў, а так сама натта прыгодны край дзеля пярэсялення, або, як кажуць, для калёнізацыі. Край гэта багаты, ураджайны і лепшага мейсца трудна знайці для тых людзей, што не маюць прытулку дома. Народу ў Гэрманіі многа, лік яго с кожным годам расьце і павялічваецца, а, тым часам, само гасударства, сціснутае з усіх бакоў чужымі дзержавамі, пашырацца ні магло. Трэ было шукаць сабе мейсца пад слонцам; «гасударства ні дрэва», пісаў адзін немяц: «расьці ў выш яно ня можа, а мусіць пашырацца у-бокі». Гэта значыць —хочыш жыць, дык старайся зямлі, начай—безгалоўя. Вось чаму нямецкія селяне так моцна і згодна трымаюцца за Вільгэльма і вось чаму ня хочуць рабіць замірэньня без перамогі. Вільгэльм ваюе як раз за тое, што патрэбна людзям: ён хоча пабольшыць сваё гасударства. Адгэтуль мы бачым, што ня добра рабілі нашы селяне, уцякаючы з свае роднае зямелькі. Яны астаўлялі пустое мейсца для нямецкай калёнізацыі і тым нісьвядома памагалі немцам лягчэй дабіцца свае мэты. Кінуўшы сваю хатку, ня лёгка вярнуцца да дому: той памрэ ад галаду і пошэсьці, а той прымайструецца на чужыні ды й думаць кіне аб сваёй зруйнованай сялібі. Дужы і згодны народ павінян трымацца за зямлю, як мага. Без зямлі чалавек, як рыба без вады.

З другога боку, англіканы гэтак сама не маглі памірыцца с тым, што Гэрманія рыхтуецца умацавацца ў яе пад бокам, на дарозі і саўсім нідалёчка ад Індыі. Згадзіцца на гэта яна ня мела жаднай рахубы. Гэта-б значыла, што яна, Англія, па добравай волі падпускае ваўка да чарады авец: гэта-б значыла, што яна сумысьля адказваецца ад найбагатшых калёній на сьвеці і ад тае працы і страт, якія палажыла яна на тое, каб захапіць гэтыя калёніі і пабудавацца там. Два мядзьведзі, кажа прыказка, у адным лагавішчу ужыцца ні могуць. Ні магла ужыцца побач і Англія з Гэрманіей.

Вось гэтак, ніпрыкметна, нарвала тая скула, каторая прарвалася страшнай, нічуванай ў гісторыі вайною. Там, дзесь на краю сьвета, пачаў бэрсацца той вузял, разглядаючы каторы людзі з жахам узіраліся ў таёмную будучыну. Усе дзержавы узброяліся. Кожны год яны трацілі страшэнна вялікія грошы на кулі, бомбы і гарматы: трымалі пад ружжом вялікую моц войска, чакаючы таго страшнога мамэнту, калі гістарычны прымус рыне іх у крывавую бойню. Ня будучы пророкам, вучоные за колькі год наўперад казалі, што справа скончыцца вайною. Калі на кладцы стрэнуцца двое і ні водзін не захоча вярнуцца назад, каб уступіць дарогу другому, дык бойка пэўна пачнецца, бо прастаяць на мейсцы, сьціскаючы ад злосьці кулакі, доўга ні магчыма. Ці пан, ці прапаў, а развязаць спорку трэба. Хто каго скіне с кладкі, чый будзе верх,—англічанкі ці немца,—хутка пабачым. Завіруха пачалася, трэйці год яна сьвішэ і бушуе і скончыцца павінна.

Калі чорныя хмары завалакуць яснае неба, калі пойдуць па небу грымоты й маланка, калі сьвет сьцішыцца, замрэ й абамлея, дык німагчыма людзям стрымаць навальніцу. У справах палітычных і грамадзянскіх падзеі людзкія учыняюцца і кіруюцца варункамі ад густу людзей ні залежнымі. Гэта мы бачым на сучаснай вайне: ніхто з нас вайны ня хоча, а, тым часам, ваевець трэба. Рэчы, звычайныя рэчы,—карысьць і прыбытак пануюць на сьвеці, а чалавек у іх найміт, будзь ён хоць трэйчы Вільгэльм гэрманскі. Людзям здаецца, што яны самі робюць сваю гісторыю, як здаецца, што мы па ўласнаму бажаньню носім свае вопраткі. Гэта здаецца, што слонца ўсходзіць і заходзіць, а дапраўды, прынамсі датычна тае часткі бязмежнага сьвету, каторая завецца слонэчнай сыстэмай, дык слонца стаіць нірухома, а наша зямля кружыцца каля слонца.

Грамадзянскія стасункі усьведамляюць [опредѣляютъ] палітычны і жыцьёвы пагляд людзей і кіруюць іх чынасьцю. Гістарычныя зьяўленьня можна умяркаваць, як магчыма урэгуляваць віраватую рэчку, але затрымаць, ці зьмяніць іх кірунак на уласны густ, по ўласнаму кшталту, і пусьціць на гладкі, жаданы шлях паступовасьці, —гэтага, покі што, людзі зрабіць ня могуць. Надыйдзе час, і час гэны ні за гарамі, калі людзі самі стануць будаваць сваё жыцьцё, або, як гэта кажуць, людзі самі пачнуць рабіць гісторыю, але цяпер, у наш час прамысловасьці і капіталізму, гісторыя чыніцца па варункам, ад нас нізалежным. Адгэтуль, ні трудна зразумець, што ня лгуць немцы, як кажуць, што яны ні хацелі вайны. Гэтак сама справядліва і наадварот, што Англія, Расія, Францыя і інш. ні жадалі гэтай сусьветнай бойкі. Вінаваты ўсе наагул і ніхто па асобку.

Адгэтуль-жа відаць памылковасьць і таго пагляду, што быццам гэтая вайна апошняя і, што скончыўшы яе, людзі умовюцца раз назаўсюды жыць згодна, па-братэрску, а калі зьявіцца задзіра, дык прымусам заставюць яго сядзець ціха. Але гісторыя вучыць, што людзі, змогшыся на вайне, як пеўні ў бойцы, ні раз умаўляліся паміж сабой на вечны мір,—толькі нічога з гэтага ня выходзіла. Гэты жаданы усімі «вечны мір» трываў роўна столькі, сколькі трэ' было часу, каб людзі зноў ні пасварыліся. А сварыліся яны заўсёды, як толькі інтарэсы кіруючых станаў суседніх дзержаваў стыкаліся на аднэй дарозі. Стрэўшыся, моў тыя казьляняты на кладцы, інтарэсы гэтыя разыціся па добрай ахвоці ня могуць. Ды й разыціся німа як,—кладка заўсюды вузкая, а вярнуцца назад нельга, бо гісторыя пасуваецца ўперад на моцы ніўхільных законаў капіталістычнага ладу.

Стаяць нірухома гісторыя ні можа, бо гісторыя—гэта само жыцьцё людзей, а жыцьцё павінна развівацца, ды ісьці ўперад, калі ні жадае памерці. І вось дзержавы, стрэўшыся на аднэй пуцявіні, спіхаюць адна другую з дарогі і, коштам крыві, мора сьлёз і гора, расчышчаюць сабе сьцежку. Вайна скончыцца, і людзі будуць жыць вольна, згодна і па братэрску, але ні цяпер, покі істнуе лад промыслу і гандлю, або лад капіталізму. Покі істнуе уласнасьць на зямлю і на ўсе прылады і начэньня прамысловага (хвабрычнага і заводзкага) вырабу, покі зямля і прамысловасьць трымаюцца паасобнымі людзьмі у кожным гасударстві, покі ўласьнікі зямлі, хвабрыкаў і заводаў маюць на увазі толькі свой, асабісты інтарэс, сваю асабістую карысьць і нажыву,—да таго часу вайна будзе вісець над жыцьцём людзей, будзе награжаць у магчымасьці. Покі ўсё гэта істнуе і ня пераж̌ыта, покі ня зруйнован капіталістычны лад дзер-

*] Гляд. № 5.

жаўнага будаваньня, да таго часу людзі ня могуць быць пэўнымі, што вайна ці там, ці тут зноў ні загарыцца. Вайна скончыцца, і з вайною людзі расквітаюцца навекі толькі тады, як запануе на усём сьвеці сацыалізм. Тады людзі сапраўды выскачуць с царства прымусу і гвалту ў царства вольнасьці, братэрства і згоды.

Цікава, што за гадоў колькі наўперад, французскія і нямецкія вучоныя, пытліва углядаючыся ў таёмную будучыну, пісалі, што вайна пачнецца як раз у Сэрбіі, па дарозі ад Бэрліну праз Канстантынопаль на Багдаду. Так яно і вышла. У Сэрбіі забілі аўстрыяцкага насьледніка. Потым выявілася, што ўчынілася гэта нівыпадкова, а наўмысьля, дзякуючы розным дыпляматычным махлярствам. Наттаж бо нямецкім капіталістам і прамыслоўцам хутчэй хацелася прабрацца к Багдаду, дзе разлягаецца багатая мейсцовасьць—Мэсапатамія. Але па дарозі да гэтага вабкага краю стаяла Сэрбія, нівялічкая сама па сабе, але ўсё такі с сваім уласным вокам. Вось і трэ' было выдумаць зачэпку, каб сапхнуць з дарогі сэрбаў. Так, без дай-прычыны, чапляцца нізручна,—і брыдка і суседзі ворага глянуць, а тут—на табе: забілі насьледніка! Гэтакага здарэньня дачакаць трудна. «Помста, помста!» лямэнтавалі нямецкіе імпэрыялісты. Аўстрыякі, у цеснай згодзі з немцамі, або, справядлівей сказаць, камандуючые станы тых і другіх, і слухаць, бач, не хацелі, калі сэрбы запрапанавалі ўсё, абы уладзіць справу згодай, справядліва кажучы, што ня вінавата-ж цэлае гасударства ў тым, што натварыла адна варьяцкая рука. Тым часам, немцы рабілі ўсё ад іх залежнае, каб скарыстаць гэты момэнт дзеля свае заваевацяльнай мэты.

Такім чынам Аўстрыя пайшла вайною на Сэрбію, абвесьціўшы, што яна прымушана гэта зрабіць праз тое, што Сэрбія ня хоча здаволіць іх «справядлівага пачуцьця помсты за забітага насьледніка». Але «умыселъ тутъ былъ иной», і Сэрбія вінавата была толькі тым, што немцам хацелася есьці.

Маючы таёмны згавор з Гэрманіей і згоду з ёю, Аўстрыя дамагалася праглынуць Сэрбію разам с суседнім маленькім каралеўствам, на назву Чорнагорыя. Яны рыхтаваліся захапіць усе землі па беразі Адрыатычнага мора і кваціліся ўмацавацца, ды стаць поўнамоцным гаспадаром на Баўканах.

Але жаданьне Аўстрыі запанаваць на Баўканах ні пад густ было самадзержаўнай Расіі. Расія сама квапілася на гэта, і памаўзьлівасьць Аўстрыі станавілася папярок дарогі,—гэта перашкаджала яе інтарэсам. Расія глядзела на ўсе балканскія народы (сэрбы, баўгары, чарнагорцы і інш.), як на сваіх малодшых братоў, за каторымі яна, па моцы сваяцтва і большасьці, самым лёсам прызначаны апекавацца, пазіраць і захіляць ад напасьці, кіруючыся тэй думкай, што ні цяпер, дык у чацьвер, а ўсе «славянскіе ручьи» павінны «слиться въ русскомъ морѣ», хоць ад аднае думкі злучыцца с самадзержаўнай Расіяй «малодшых братоў» кідала ў жар і праймаў хаходны пот. Камандуючыя станы Расіі пазіралі на славянскіх народаў, як на цэглу і кахлю для будаўніцтва моцы і гонару вялікарускага дзержаўства, Усе—дзеля Масквы, а Масква-гаспадыня, так мысьлілі расійскія імпэрыялісты.

Квапючуся прашыцца гаспадарным братам на Баўканы, Расія чакала толькі зручнага мамэнта. Мала гэтага, зайдросная і памаўзлівая, яна рахавала за адзін прысест захапіць і Канстантынопаль с тамтэйшымі пралівамі, а турак прагнаць зусім." Як мы ведаем, першыя міністры Часовага Ураду насіліся з думкай гэтай, як кот с кілбасою,—так шкода было багатыром расійскім растацца с вабкаю марай аб Царградзі. Трэба сказаць, што калісьта там, дзе цяпер туркі, было грэцкае царства, адкуль мы, славяне, злучаные цяпер у Дзержаві Расійскай, атрымалі веру. І толькі, трымаючыся гэтага дрыгвянага грунту, расійскія імпэрыялісты,—прамыслоўцы і капіталісты, матывуюць і маральна апраўдваюць сваё права на захват Канстантынопалю. З гэтага мы бачым, што калі вымагае таго інтарэс кішэні, дык сама рэлігія,—справа сумленьня і Бога, ідзе на падмогу зайдрасьці багатыроў. У справах нажывы і рабунку багатыры не маюць нічога сьвятога і самога Бога гатовы ужыць дзеля карысьці і зыску...

[канец будзе].

Я. Л—к.



# Друк і жыцьце.

## «У бацькаўшчыні Міцкевіча».

Пад такою назваю была надрукована яшчэ 18 маю ў газэці „Dziennik Petrogradski“ цікавая карэспандэнцыя з Стакгольму. Мы яе перадрукуем цалкам, бо яна й дагэтуль не страціла свае цікавасьці.

У месячніку «Kultura Polski» мы знаходзім жменьку цікавых драбніц аб цяперашніх адносінах нацыанальна-культурных у зямлі Навагрудзкай на Беларусі.

Зямля Навагрудзкая, бацькаўшчына Адама Міцкевіча асталася праўя што ў цэласьці па тым боку баявага фронту. Яна цяпер ляжыць так блізка да лініі бітваў, што не далучана да жаднай с тых акругаў, на якія падзеляны ляжачыя даляй на захад літоўскія землі. Находзючысь у акрузі так званай «Opera tionsgebiet» (баявая акруга. Рэд. «В. Б.») зямля Навагрудзкая кіруецца чыста ваеннымі ўласьцямі і не мае жаднай адміністрацыі грамадзянскай. Ад іншых часьцін Літвы, ня только тых, што знайходзюцца ў тым самым палажэньні, але й ад тых, што маюць нават грамадзянскую адміністрацыю, Навагрудзская зямля розніцца і надта карысна. Перш-на-перш, гэта адно мейсцэ, гдзе захавалася гарадзкое самакіраваньне. На чэлі Гарадзкой Думы стаіць п. Керсноўскі і ўся Дума, якая функцыануе зусім нармальна, мае характэр польскі.

Наагул кажучы, Навагрудзкі павет цяпер ёсьць боляй польскім, чым калі б то ні было. Значная часьць праваслаўных беларусаў ўцякла разам з войскам расійскім. Цэлая бюрократія (чыноўнічаство. Рэд. «В. Б.») і інтэлігэнцыя расійская (зрэшта яе была толькі жменька) так сама. Маса беларуская ня толькі каталіцкая, але нават і тая часьць праваслаўных, што засталася на мейсцы, так моцна цягне да культуры польскай, што ня можна ні лічыць яе за нацыанальна- польскую, хоць этнаграфічна яна й руская. Такі цяг цэльнай мейсцовай людпасьці да польскай культуры адбіўся ў школьнай справі. У Навагрудку цяпер ёсьць толькі польскія школы.

Польская інтэлігэнцыя Навагрудку занялася так сама і справай прасьветы вясковага люду ў сваім павеці. У ваколіцах Навагрудку заложэна 10 школак, покі што толькі ў каталіцкіх вёсках. Нямецкія ўласьці стараюцца садзіць у школкі у праваслаўных вёсках вучыцялёў—беларусаў з вучыцяльскіх курсаў у Сьвіслачы, заложэных спэцыльна для беларусаў.
Такія весткі «Kultury Polski».

Адносіны на Беларусі цяпер укладаюцца ў такія формы. Нямецкія акупацыйныя ўласьці гледзяць на Беларусь, як асобную нацыанальную едзініцу і ў такім кірунку вядуць сваю мейсцовую палітыку ў забранай імі часьці краю, Расія, ў якой пытаньне нацыанальнае цяпер пераглядаецца нанава і рэзультат гэтага перагляданьня яшчэ досі ясна ня выявіўся, ня гледзючы на яе вачавідную гатоўнасьць да прызнаньня розных адзяленьняў, на Беларусь, однак, глядзіць, як на расійскую галінку. Пасярод самых беларусаў пры цяперашніх спагадных умовах падыймаецца рух да самадзельнасці культурна-нацыанальнай і да выдзяленьня адміністрацыйнага, якое-б гэтую самадзельнасьць забяспечыла. С польскага боку будзюцца лёгка зразумелыя стараньня да злучэньня з Польшаю хоць бы каталіцкай часьці Беларусі, якая з даўных часаў дзеля розных прычын заўсёды да нас цягнула. Гэтыя стараньня, выяўляемыя, як мейсцовай польскай інтэлігэнцыяй, так і палітычнымі чыньнікмі з—надворку (Часовая Дзержаўная Рада ў Варшаві), крыжуюцца з адменнымі ад іх тэндэнцыямі акупацыйных нямецкіх ўласьцей і Расіі і нацыанальных правадыроў народу беларускага. Цяжка знайсьці большае сплаценьне спрэчнасьцяў.»



# Кароткі фэльетончык.

## Пакрыўджаные.

Вечар. Ціха ў кватэры. Нават мыш не заскрабе. Бляск ад лямпы упаў на бледны змучаны твар пана Максімава, а даляй адбіўся на дрэвах за вакном, што так таемна маўчаць, як быццам нешта захаваўшы. Нават кот і той ляжыць увесь час у запечку, а ня йдзе вільнуць хвастом каля свайго пана.

Хворы п. Максімаў, занядужаў бедак. Цэлы дзень ужо ляжыць. Нуда нетра смокча, жывасілам косткі цягне. І гэткая боль-аж стогне хворы, сцапіўшы зубы. А ў ночы яшчэ горш; баіцца ён у ночы. Заплюшчыць толькі вочы, на адну хвілінку, а тут і пачнуцца страшныя, незвычайныя сны. І горш за ўсё, што аднастайныя. Падкрадзецца Беларускі Нацыянальны Камітэт, узваліцца ўсім сваім цiжарам на грудзі, душыць за горла... Ды каб ён хаця адзін! А то навалюцца яшчэ ўсе разам: беларускі тэатр, ноч пад Купальле, родная мова, скарбоначны збор, усе гурткі беларускія... А сьпевы зьвіняць у вушах, лятуць да зорак з усей тугой аб нядолі, зьдзеку, кружацца, хаваюць сонейка... Сьлёзы цякуць з вачэй, цяжка на сэрцы... І ніхто не даведаецца, не разважыць.

Ляжыць пан Максімаў, абцірае пот с твару белай хустачкай. Усё ня люба яму сягоньня, ніхто ня можа дагадзіць. «Божухна Літасьцівы! На што Ты пусьціў на сьвет гэтых беларусаў? Чым я пакрыўдзіў Тваю Боску моц, што Ты не забярэш іх адразу са сьвету, не пашлеш на іх пошэсьці? Я—ж не магу жыць, мне ня мілы красачкі, хочыцца мне разам з маім Лыскам завыць, калі чую іх голас, бачу іх рух. Я—ж стараўся, як мага ўціраў насы селянам на з'ездзі, колам хадзіў перад імі, а Ты цяпер не маеш літасьці. А мо' Ты сярдуеш, што вопратка мая інакшая крыху? Дык не: гэта толькі для вока іншых так выдае. Я той самы, да душы-ж даўнейшы! Люблю і паважаю: нярухомасьць, паслушэнства. А то гэтыя гарладзёры-беларусы паднялі гвалт аб свaёй справі. Ня гожа гэта: я не хачу, я не пазволю!»

Павярнуўся на другі бок хворы пан, цяжка ўздыхнуў, а думкі ізноў пабеглі. «Родная мова, родная школа, нацыанальнае адраджэньне... На што, на якое, каму гэта патрэбна? Жыві пацíху, ня круці галавою. Расейцы даюць усё гатовае—дзякуй ім за дабрату іхнюю... А як народ збудзіцца, згадае, хто яго ворагі, загаворыць сваёю ўласнаю моваю? Бывай здарова тагды, салодкае жыцьцё! Не... Гэтага ня будзе, ніколі ня будзе! Нашэ панаваньне надта глыбока пусьціла корань: усю сьвядомасьць беларускую зністожылі, праглынулі... Спаляндравалі, толькі гладкое мейсцэ блішчыць. Не дарэмна з'езд настаўнікаў закідаў гразьзю усё беларускае, сваё роднае, ды ад радасьці хацеў на канцы сваёй працы уладзіць баль з танцамі!... Увесь Мінск чуў гучны вокліч беларусаў шанаваць сваё роднае, углядаўся на пекную вопратку сваю, чуў сьпевы, бачыў скокі. Ды яшчэ як углядаўся! Яж далажыў усяго, абы затрымаць гэта; нават у газэці пісаў. Пісаў не сучасным чарпілам, а тым, што захавалося з даўных дзён. Чорным, як сажа, чорным, з гляпцам... Ой, гэтак баліць, гэтак смокча! А тут яшчэ ноч блізка».

* * *

Поўны стол красак, краскі на вокнах, на крэслах... Пан Стэпкоўскі аж бегае па кватэры. Холадна ў яго на душы, пуста на сэрцы, грызе ўсё нешта, як чарвяк гнілое яблыка... «Белы сьвет так прыгожы, так хочыцца жыць, цешыцца яго хараством. А тут сягоньня нават і красак не ўзяла. І так спаткала непрыемна... У дадатак яшчэ гэтыя беларусы сэрцэ ад'ядаюць!.. Пайду да Максімава. Даўно ўжо клікаў. Пасумуем разам.»

Спаткаліся паны—дабрадзеі, абняліся й заплакалі. Пацяклі сьлёзы й зьмешаліся разам...

Зрэбны.

# ЗЬЕЗД ДЭЛЕГАТАУ

## ад беларускіх партыйных і грамадзянскіх арганізацый 8—10 ліпня ў Мінску.

## Першы дзень зьезду.

(Пачат. глядз. ў № 8).

Старшыня пытаецца, ці хто з мейсца мае што расказаць. Будзька знаёміць з'езд с тым, што рабілося беларусамі ў Петраградзі: прэдстаўнікі ад беларусаў ёсьць ў камітэці пры Міністру Народнай Прасьветы, ў Парадзі аб скліканьні Устаноўчага Сэйму, ў Бюро Нацыанальных Сацыалістычных Партый.

Дыло ставіць пытаньне аб працы прапар. Мышкі і «Западно-Рускаго Общества».

Будзька адказывае, што Мышка да рэвалюцыі, як і шмат хто іншы, быў цэнтралістам і пэўна-ж ні мог перарабіцца за некалькі дзён рэвалюцыі. Што належыцца да «Западно-Русскаго Общества», дык гэта кампанія быўшых правых людзей. Але яны, як чорт крыжа, баяцца палякаў, баяцца, каб хоць часьціна Беларусі ні папалась да Польшы.

Дзеля гэтага яны робюць нам значныя ўступкі: яны, напрыклад, згаджаюцца на Краёвую Беларускую Раду і на увядзеньне беларускай мовы ў школкі паралельна з маскоўскай. Як нам прыдзецца праводзіць мяжу з палякамі і літоўцамі, яны будуць нашымі хаўруснікамі; за тое з усходняга боку яны будуць старацца, каб чым найболяй адарваць ад Беларусі. Наагул жа кажучы, вялікай увагі на іх звяртаць ні трэба і ісьці даляй сваёю дарогаю. Самае важнае, што стаіць цяпер перад намі—школа і школьныя падручнікі.

Дыло цікавіцца, ці што робіцца ў гэтым напрамку, ці не. Будзька адказывае, што Тарашкевіч пад кірункам акадэмікаў Карскаго і Шахматава сядзіць над граматыкаю. Але гэтае пытаньне боляй зубастае, чым можна было раней дагадывацца. Душэўскі піша гэаграфію. Цяпер ў Мінску Таварыство Беларускай Культуры выгаласіло конкурс на 10 школьных падручнікаў. Можа і яшчэ хто працуе над падручнікамі, але яму гэта нівядома.

У гэты час да прэзідыуму падходзіць матрос Пятухоў і падае пісьменную заяву. Старшыня просіць прачытаць яе. Матрос чытае:

«Заява.

Ліпня 8 дня 1917 г. мы, ніжэйпадпісанныя, дэлегаты Вітэбскаго Камітэту Беларускага Народнага Хаўрусу, дзеля выявіўшыхся нам заданьняў з'езду, заяўляем:

1) што цяперашні «Беларускі з'езд», складаючыся без малаго толькі з прэдстаўнікаў «Беларускай Сацыялістычнай Грамады», якая выступае пад сьцягам сацыялізму, ня можа рабіць пастаноў ад імяні ўсяго беларускага народу, будучы ўсяго нівялічкай яго часткай;

2) што ухваленьне прыветнай тэлеграмы Украінскай Радзі ёсьць ў адносінах да цэльнай Расіі сэпаратным учынкам, што беларускім народам, які жыве ў цеснай еднасьці з Расіяй, ухвалена быць ня можа;

3) што поўнае ігнараваньне з'ездам праў цяперашняго мамэнту, як 1) учынкі «бальшэвікоў» у Петраградзі, пробы арыштаваць Часовы Урад

